# Ніва

ISSN 0546—1960
ІНДЭКС 36671

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 43 (1537) ГОД XXX БЕЛАСТОК 27 КАСТРЫЧНІКА 1985 г. ЦАНА 10 зл.




Л. Тарасэвіч, 1985.

## ПЕРАД НОВЫМ КУЛЬТУРНА-АСВЕТНЫМ СЕЗОНАМ

Восень у культурна-асветнай дзейнасці абазначае пачатак новага сезона. Гэта тая пара, калі абмяркоўваюцца планы і праграмы на новы сезон, праводзяцца ўрачыстыя інаўгурацыі. Беларускае грамадска-культурнае таварыства таксама старанна рыхтуецца да новага 1985/1986 культурна-асветнага года, адкрыццё якога адбудзецца 26 кастрычніка г.г. у Гайнаўцы. На ўрачыстасць, якую арганізуем супольна з Кураторыяй асветы і выхавання, запрашаем настаўнікаў беларускай мовы і дзеячоў культурнага руху з нашага асяроддзя, людзей, ад актыўнасці якіх залежаць поспехі ў выкананні нашых культурна-асветных намераў.

Многа месца ў сваёй дзейнасці БГКТ адводзіць навучанню беларускай мовы. Трэба аб'ектыўна сказаць, што ступень зацікаўлення навучаннем роднай мовы памалу ўзрастае. У апошні час ёсць прыклады рэактывавання навучання ў пачатковых школах. Ад 1 верасня 1985 года зноў вывучаюць сваю родную мову школьнікі з Астраўка (гм. Шудзялава), з пасёлка Чаромха, з Пілікаў (каля Бельска Падляшскага). Не хапае, аднак, навучальных дапаможнікаў і падручнікаў. Найбольш іх бракуе ў III і VI класах. Падручнік для III класа аўтарства Л. і М. Гайдукоў павінен трапіць у школы перад вераснем 1986 года. Іншыя падручнікі пакуль што рыхтуюцца да друку.

Галоўнае праўленне БГКТ, супольна з Кураторыяй асветы і выхавання, традыцыйна будзе арганізоўваць конкурсы для школьнай моладзі. Плануем у гэтым навучальным годзе арганізаваць тры конкурсы для школьнікаў. Найбольш папулярным будзе конкурс „Беларуская песня-86". Пад лозунгам „30 год БГКТ. — Усё, што сэрцу майму блізка" праводзіцца будзе дэкламатарскі конкурс. У гэтым годзе хочам ажыццявіць ідэю агляду дзіцячых драматычных калектываў. Заахвочваем настаўнікаў і школьную моладзь да масавага ўдзелу ў гэтых конкурсах.

У 1986 годзе будзем адзначаць

(Працяг на стар. 3)




Прасвечвалі рэнтгенамі,
Правяралі кардыёграфамі,
Праслухоўвалі,
Падлічвалі ўдары пульсу.
А тое,
Што людскіх клапот і спраў
Нашу асколкі ў сэрцы,
Так і не выявілі.
А гэта яны заўсёды
На змену пагоды,
Прачнуўшыся, ныюць.

* * *

Каб на кожным слове
Ставілі таўро праўды,

Як ставім на рэчах
Знак якасці,

На дарагіх металах —
Пробу,

Напэўна,
Лягчэй і святлей
Нам жылося б на свеце.

* * *

Дрэнна, калі згасне зрок,
Бо тады свет наўкольны знікае.
Дрэнна, калі глухне слых
І не чуеш, хто плача,
А хто смяецца.
Дрэнна, калі з сэрца выветрыцца
Усё сумленне,
Бо яно не вяртаецца зноў.
А найгорш,
Калі розум засне,
Бо тады ў дзверы ломяцца
Злыбеды ўсе.

Максім Танк




### АЦЭНЯЦЬ НАС МАЛАДЫЯ

Сцяпан Дубіна ўзяў голас не на тэму. Ён, на бабскі манер, перш за ўсё пацікавіўся маёй асобаю, замест дыскутаваць над выступленнем „Моцныя ў языку". Іначай кажучы, прапануе мне сварню. Я, натуральна, вырашыў пакінуць Дубіну па-за сваёй увагай. Маўляў, няхай сабе сам пакутуе са сваімі комплексамі... Але мінула два месяцы — і заінтрыгаваў мяне культурнасцю свайго выступлення Міхась Куптэль („Больш практыкі", 8.IX.). І я палічыў патрэбным спрабаваць папалемізаваць з Дубінаю.

Як мне бачыцца, пішучы „Моцных у языку", я выразна меў на ўвазе адну надакучлівую асаблівасць нашага нацыянальнага характару. Дзеля дэфініцыі яе, паслужыўся паняццем магічнасці слова, якую ў чыстай форме наглядаем у вераваннях, у акце малітвы. Напрыклад, кідаецца ў вочы розніца паміж словам і ўчынкам. Патрыятычна гаварыць і быць патрыётам у нас, на жаль, часта не тое самае. Шмат-хто сярод беларускіх дзеячоў здзіўляе менавіта гэтым! Здавалася б, яны аж заядлыя беларусы. Слухаць іх — радасць, пакуль знаходзішся з імі на форуме Беларускага таварыства або ў рэдакцыі „Нівы". З такімі — думаецца — беларуская культура несмяротная. Але пазнаёмся з іхнымі сем'ямі, з дзецьмі — і перажывеш шок! — сыны і дочкі нават не разумеюць бацькоўскай мовы. Нічога роднага яны ім не перадалі, застаючыся беларускімі родзічамі небеларусаў. Як можна шанаваць такіх? Абрываецца беларуская нацыя ў мностве падобных ачагоў. Дубіна можа рэплікаваць мне — несправядлівы я тут, не заўважаю трагічна-аб'ектыўных аспектаў, і гэтак далей. Былі, ёсць і будуць цяжкія сітуацыі ў беларускім лёсе, аднак не настолькі, каб выракацца нацыянальнага выхоўвання нашчадкаў. Каб выратаваць беларускае прынамсі ў прыватнай сферы жыцця.

Дубіна намякае. Ён, Сцяпан, робіць намёк на такое, чаго сам забаяўся?! Яго права — баяцца. Быў такі час і такая эпоха, калі беларускае трактавалася з іроніяй. Як з'яву, якая перашкаджае прагрэсу. Як перашкоду ў эмансіпацыі беластоцкага чалавека. Інтэграцыю раўнялі з ліквідацыяй. Таму беларускі патрыятызм у тыя гады прывёў да жыццёвай няўдачы або і катастрофы, магчыма, і самога Дубіну (здагадваюся, што пад псеў-

(Працяг на стар. 3)

## НА МЯЖЫ

### АБ ДЗЯРЖАЎНАСЦІ І НАЦЫЯНАЛЬНАСЦІ (IX)

Ад вякоў наша зямля — усходняя Беласточчына мела беларускі характар. Многа змянілася грамадскіх сістэм, многа змянілася тут дзяржаў, але сама зямля, этніка, мова, фальклор, звычаёвасць, традыцыі былі тут заўсёды беларускія. І ў часе вялікіх прыгнётаў, эксплуататарскіх сістэм і тэрораў беларусы — гаспадары гэтай зямлі асталіся верныя сабе, сваёй нацыянальнасці. Дык чаму гэта так сталася, што сёння ў Народнай Польшчы, якая зраўняла ў правах і абавязках усе нацыянальнасці і ўсе веравызнанні, беларусы паскоранымі тэмпамі пачалі выракацца свайго роднага? Чаму пачалі губляць сваё нацыянальнае аблічча? Чаму тут мову, якую ўзялі ад сваіх бацькоў і дзядоў, перасталі перадаваць сваім дзецям? Як гэта не недарэчліва, але сталася так таму, што беларусы атрымалі поўную свабоду і магчымасць развіваць сваю нацыянальную культуру. Думаю, што калі б існаваў прыгнёт, калі б было ганенне, калі б было праследаванне ўсяго беларускага, тады б многія змагаліся за сваё, за роднае. Значыць, свабода і роўнасць сталася небяспекай, смяротнай пагрозай для беларускасці. Ці ж гэта не смешна і не трагічна?

Ці ж не ляжа невыносным цяжарам на наша пакаленне адказнасць за тое, што мы не выкарысталі тых магчымасцей, якія стварыла для нас Народная Польшча, і змарнавалі і загубілі тую спадчыну, якую перадалі нам дзяды і прадзеды? Ці ж не заслужым на ганьбу, калі той край, які пераняли мы ад сваіх продкаў як беларускі, перадамо сваім нашчадкам як польскі? Народная Польшча прыгожая перш за ўсё таму, што яна разнародная, што яна захоўвае спецыфіку і адменнасць паасобных рэгіёнаў. Ці ж не будзе недарэчлівай драмай стан, у якім такую спецыфіку захавае Мазовія, Курпі, Кашубы, Куявы, але страцяць яе беларусы з усходняй Беласточчыны? І чым жа мы тады станемся: гуралямі ці варшавякамі? І ўвогуле каму трэба, каб наступіла такое абсурдальнае перараджэнне! Я ўпэўнены, што праграмы такога перараджэння няма ні ў адным міністэрстве, ні ў адной партыі ці арганізацыі. Фатальнасць заключаецца ў тым, што такая тэндэнцыя паявілася ў саміх беларусаў! Адна з маіх студэнтак сказала мне, што калі яна пяць гадоў таму назад выбіралася на беларускую філалогію Варшаўскага універсітэта, дык пыталася ў свайго бацькі, хто ён па нацыянальнасці. Бацька, хаця і паходзіць з тыповай беларускай вёскі і з'яўляецца праваслаўным і да сёння арэ зямлю, памяўшыся, адказаў: „Паляк". Тады студэнтка звярнулася да дзядзькі, афіцэра польскага войска, рашучага атэіста. Афіцэр таксама адказаў: „Я паляк". Я спытаў студэнтку, што яна напісала ў сваёй анкеце ў рубрыцы: нацыянальнасць. Студэнтка замялася і адказала: „Добра не памятаю, бо гэта было пяць гадоў таму назад, але хіба напісала, што я полька. Я пашукаў анкету гэтай студэнткі і ўбачыў у рубрыцы „narodowość" — „białoruska" і ў мяне палягчэла на сэрцы! Усё ж-такі не паслухала ні бацьку, ні дзядзьку, якія пераблыталі два розныя факты: дзяржаўнасць і нацыянальнасць і зманілі, тады, калі дзяўчына напісала праўду.

(Працяг на стар. 5)

## Весткі з Беларусі

### ДАМЫ ЗАКАЗВАЮЦЬ ЛЯСГАСУ

Усяго за два тыдні будуюць дамы сядзібнага тыпу зрубы, для якіх пачалі выпускаць лясгасы Брэсцкай вобласці. Дамы — на тры пакоі з кухняй, кладоўкай і санвузлом.

Дрэваапрацоўчыя цэхі створаны побач з ляснымі масівамі. Тут і наладжана вытворчасць дэталей для дамоў. Выробленыя па заказу калгасаў зрубы ў разабраным выглядзе дастаўляюцца на сядзібы. Дзесяткі такіх катэджаў ужо адпраўлены ў сельскія пасёлкі. Там іх збіраюць і заканчваюць калгасныя будаўнічыя брыгады. Драўляныя дамы простыя ў вырабе, утрая таннейшыя за буйнапанельныя з жалезабетону і цагляныя.

Вытворчасць зборных канструкцый асвоена таксама на Целяханскім заводзе сталярных вырабаў, Івацэвіцкім, Бярозаўскім і Ганцавіцкім заводах буйнапанельнага домабудавання. Індустрыялізацыя сельскага будаўніцтва дала магчымасць з пачатку пяцігодкі ўзвесці ў вёсках вобласці звыш 700 тысяч квадратных метраў жылля.

### ЁСЦЬ ПЛАНЕТА МІНСК!

Каля трох тысяч малых планет абарочваюцца вакол Сонца паміж арбітамі Марса і Юпітэра. Гэтыя астэроіды ўтвараюць цэлы пояс у Сонечнай сістэме.

Пастаяннае назіранне за зорным небам вядуць супрацоўнікі Інстытута тэарэтычнай астраноміі АН СССР і Крымскай астрафізічнай абсерваторыі.

Крымскімі астраномамі зроблены дзесяткі тысяч негатываў, адкрыты каля 300 малых планет. Ім прысвойваюцца імёны, якія рэгіструюцца ў Міжнародным планетным цэнтры (Кембрыдж, ЗША).

Нядаўна з цэнтра прыйшла вестка, што зацверджана назва планеты — Мінск. Ёсць у небе і такія планеты, як Беларусь і Хатынь, адкрытыя раней. Усе яны знаходзяцца на адлегласці соцень мільёнаў кіламетраў ад Зямлі. Вывучэнне руху ўсіх астэроідаў дапамагае вырашаць многія пытанні нябеснай механікі і тэарэтычнай астраноміі.

Спецыялісты Крымскай астрафізічнай абсерваторыі працягваюць пошук. Па колькасці адкрытых малых планет яны апярэдзілі замежных калег і цяпер займаюць першае месца.

### МІШЭНЬ „ПАД ПРЫЦЭЛАМ"

Вядома, што якасць разнастайных электронных вырабаў — інтэгральных схем, фоташаблонаў, паўправаднікоў, запамінальных прыстасаванняў высокай інфармацыйнай ёмістасці і іншых у значнай ступені залежыць ад канструкцыі і ўласцівасцей так званых мішэняў, якія выкарыстоўваюцца пры іх вырабе, інакш кажучы — распыляемых электродаў. Растуць патрабаванні да электроннай тэхнікі — павялічваюцца яны і да мішэняў. Новыя тэхналагічныя працэсы, якія дазваляюць атрымліваць высокашчыльныя і высокатрывалыя матэрыялы для электродаў, новыя спосабы іх злучэння з токаправоднай асновай прапанавалі вучоныя Беларускага рэспубліканскага навукова-вытворчага аб'яднання парашковай металургіі. Вынікам укаранення навінак на многіх прадпрыемствах краіны стала паляпшэнне якасці напыляемых матэрыялаў і канчатковых вырабаў — мішэняў.

### АЛЕСЬ БАРСКІ Ў „МАЛАДОСЦІ"

У верасьнёўскім нумары „Маладосці" надрукавана падборка вершаў Алеся Барскага. Усе вершы — са зборніка „Блізкасць далёкага".

### СПОРТ

■ У Ленінградзе на розыгрышы Кубка СССР і чэмпіянаце краіны па мастацкай гімнастыцы вызначылася юная беларуская спартсменка Марына Лобач. Яна заваявала Кубак СССР і атрымала два залатыя медалі ў асобных практыкаваннях.

■ Пераканаўчай перамогай савецкіх баскетбалістак завяршылася першынство Еўропы па баскетболу.

За зборную СССР выступалі і мінчанкі Галіна Савіцкая і Таццяна Белашапка.

■ Традыцыйныя спаборніцтвы армейскіх каманд па кулявой стральбе „Тураў рог" прайшлі пад Мінскам.

Беларускія стралкі занялі другое месца.

■ На розыгрышы Кубка Савецкага Саюза 1986 года па футболу мінскія дынамаўцы ў адной восьмай фіналу выйгралі ў гасцях варонежскага „Факела" з лікам 3:1. Вызначыўся Віктар Сокал, на рахунку якога два мячы.

Вясной будучага года ў адной чацвёртай фіналу беларускія футбалісты сустрэнуцца з маскоўскім „Спартаком".

■ Завяршыліся спаборніцтвы лёгкаатлетаў на Кубак краіны.

Магілёўчанін Віктар Мазгавы першынстваваў у бегу на дзесяць тысяч метраў, а Сяргей Лукашок з Мінска — у кіданні дыска.

Высокім вынікам парадаваў на гэтых спаборніцтвах яшчэ адзін спартсмен з Беларусі — Уладзімір Патапенка. У скачках у даўжыню ён заваяваў сярэбраны медаль: 8 метраў 10 сантыметраў.

■ На асабіста-камандным першынстве краіны па класічнай барацьбе сярод моладзі гамяльчанін В. Капылоў заняў першае месца.

## НА ЗАХАДЗЕ БЕЗ ПЕРАМЕН

### НОВЫ ПРАРОК

Горад Бхагван Шры Раджніш вы не знойдзеце на карце амерыканскага штата Арэгон. Але Шры Раджніш (ён велічае сябе „настаўнікам" або „азораным") упарта называе сваё велізарнае ранчо (260 кв. км.) горадам.

Раджніш-Бхагвану 53 гады. Ураджэнец Індыі, пераконвае, што седзячы на дрэве ў сябе на радзіме, ён нечакана адчуў прыліў магічнай сілы, „азарэнне" і прызванне стаць духоўным пастырам. Журнал „Шпігель" даказвае, што яму ўдалося прыдбаць 500 000 паслядоўнікаў, сярод якіх нямала моладзі, і пры гэтым стаць казачна багатым.

Уздоўж аўтастрады, якая вядзе да ранчо, на працягу 20 кіламетраў пастаўлены вартаўнічыя вышкі. Надзейныя ахоўнікі дакладна правяраюць усіх новапрыбываючых.

На ранчо жывуць і служаць Бхагвану 1500 чалавек. Яны паслухмяна, а галоўнае, практычна бясплатна — за харчаванне і медыцынскую дапамогу — апрацоўваюць зямлю, абслугоўваюць гасцініцы, водзяць аўтобусы. У „пастыра" свой аэрадром, 6 самалётаў, 90 аўтобусаў, аўтамашыны маркі „ролс ройс". Ён выдае сваю газету „Раджніш Таймс". Ёсць дыскатэкі, рэстараны, кіёскі і будаўнічыя прадпрыемствы.

Але што ж прапаведуе чарговы прарок? У інтэрв'ю супрацоўнікам журнала „Шпігель", ён заявіў, што не верыць ні ў адну з рэлігій, апрача створанай ім самім. А гэта рэлігія можа быць сфармулявана так: „вызваленне ад уласнага я, ад сумлення". Трэба жыць, гаворыць ён, без аглядкі на мінулае, без думак аб будучыні, сям'і, прафесіі. І трэба цалкам падпарадкавацца волі прарока. Шлях да гэтага — медытацыі, песнапенні, рытуальныя танцы, гіпноз. На пытанне інтэрв'юэра, ці не прапаведвуецца гэтым самым эгаізм, Бхагван адказаў, што эгаізм „натуральны стан". Дужы выжывае і павінен мець уладу. „А той, каму належыць улада, заўсёды мае рацыю", — прадракаў ён.

— Ці не нагадвае гэта тэорыі Гітлера? — спыталі „азоранага".

Ён адказаў: „Я люблю гэтага чалавека... Ён быў святым".

А. Б.

# ПЕРАД НОВЫМ КУЛЬТУРНА-АСВЕТНЫМ СЕЗОНАМ

(Працяг са стар. 1)

юбілей 30-годдзя БГКТ і нашага беларускага тыднёвіка „Ніва". Таму ўсе нашыя культурныя мерапрыемствы будуць прысвечаны гэтаму юбілею. Будзем папулярызаваць дасягненні таварыства і „Нівы", а таксама людзей, заслужаных для беларускага руху ў Народнай Польшчы. З нагоды гэтага юбілею плануем арганізаваць у сакавіку 1986 года навукова-папулярную сесію. У дакладах павінны быць адлюстраваны дасягненні ў галіне беларускага літаратурнага руху, школьніцтва, мастацкай аматарскай самадзейнасці, беларускай публіцыстыкі на старонках „Нівы". Хочам паказаць ролю БГКТ у грамадска-палітычным жыцці краіны, мінулае і перспектывы Беларускага музея. Найбольш цікавыя і каштоўныя даклады з гэтай сесіі плануем надрукаваць на старонках „Беларускага календара" на 1987 год.

У спіску культурных мерапрыемстваў на 1986 год прадбачваем арганізаванне традыцыйных, праверaных ужо форм дзейнасці. І так, у сакавіку 1986 г. адбудзецца конкурс „Беларуская песня-86". Гэты конкурс і навукова-папулярная сесія будуць галоўнымі мерапрыемствамі, прысвечанымі адзначэнню юбілею 30-годдзя заснавання БГКТ і „Нівы", які прыпадае на перыяд ад 26 лютага да 4 сакавіка 1986 года. У гэтых днях плануем правесці ўрачыстыя сходы гуртоў і аддзелаў, адбыць юбілейную акадэмію ў Беластоку. У наступных месяцах будзем арганізаваць агляды тэатральных калектываў і народных музыкантаў, а ў вясковым асяроддзі — народныя фэсты.

Гарадскі аддзел БГКТ у Беластоку ўжо другі раз наладзіць святкаванне купальскай ночы. Першае святкаванне Купалля адбылося 6/7 ліпеня г.г. над Нарвай каля Плёсак і карысталася вялікай папулярнасцю, так што беластоцкія дзеячы рашылі працягваць яе ў наступных гадах.

Новая ініцыятыва гэта свята беларускай культуры, якое плануем арганізаваць летам 1986 года ў Беластоку з той мэтай, каб шырока паказаць грамадству дасягненні нашага таварыства ў галіне культуры. Намерваемся ў беластоцкім амфітэатры правесці канцэрты, з удзелам большасці нашых калектываў. Разам з канцэртамі адбудуцца аўтарскія сустрэчы, выстаўкі народнай творчасці і інш. Будзе гэта даволі вялікае мерапрыемства. Хочам правесці яго на высокім арганізацыйным і мастацкім узроўні, дабіцца таго, каб такое свята стала рэгулярнай і самай важнай падзеяй у культурным жыцці беларусаў у Польшчы. Таму ўжо сёння звяртаемся да ўсіх нашых мастацкіх калектываў, да ўсіх нашых культурных дзеячоў з заклікам уключацца ў падрыхтоўку і правядзенне свята беларускай культуры.

Пры арганізацыі ўсіх нашых мерапрыемстваў будзем цесна супрацоўнічаць з палітычнымі, культурнымі і асветнымі ўладамі нашага ваяводства, гарадоў і гмін. Разлічваем на тое, што пры іх дапамозе і пры заангажаванні нашых дзеячоў здолеем ажыццявіць усе нашы намеры ў новым культурна-асветным годзе.

**Віталій Луба,**
сакратар ГП БГКТ



Актэт „Дзявочыя ноткі" з бельскага белліцэя. Фота Я. Хаманюка.

# ПРАЦА РАЗГОРТВАЕЦЦА

**(У БЕЛАСТОЦКІМ АДДЗЕЛЕ БГКТ)**

На пасяджэнні Прэзідыума аддзела БГКТ у Беластоку 28 верасня г.г., пад старшынствам В. Ласкевіч і з удзелам сакратара ГП БГКТ В. Лубы, былі абмеркаваны прапановы і прыняты план працы аддзела на бягучы культурна-асветны 1985-6 год. Нягледзячы на тое, што ў будынку ГП БГКТ цяпер праводзіцца капітальны рамонт і на самай справе аддзел не мае свайго сталага памяшкання для рэгулярнай культурна-асветнай дзейнасці, ён усё ж не спыняе работы і будзе надалей працягваць асноўныя формы свае працы. Дзякуючы стараниям сакратара ГП БГКТ В. Лубы кіраўніцтва беластоцкай фабрыкі „Пасманта" дазволіла праводзіць у іх рэпетыцыі самадзейных калектываў, а таксама невялікія ўрачыстасці. Таму аддзел запрашае ўсіх ахвотных спяваць, танцаваць, іграць, выступаць у сцэнічных пастаноўках да ўдзелу ў самадзейных калектывах. Кожны знойдзе цікавы для сябе занятак! Аддзел узнаўляе таксама працу дзіцячага танцавальнага калектыву, ён будзе спалучаны з заняткамі па рытміцы.

Асаблівую ўвагу аддзел звяртае на адпаведную падрыхтоўку беластоцкіх спевакоў да ўдзелу ў конкурсах „Беларуская песня-86" для дарослых і для дзяцей.

Перад усёй нашай арганізацыяй стаяць адказныя і ганаровыя заданні ў належным адзначэнні 30-годдзя БГКТ і „Нівы" Між іншым, гэтую справу будзе абмяркоўваць пленарнае пасяджэнне аддзела, якое адбудзецца 19 кастрычніка г.г. Яно таксама ўрачыста адкрые культурна-асветны 1985-6 год у працы беластоцкіх бэгэкатоўцаў. Гэтай даты не чакаў беластоцкі тэатральны калектыў, бо пасля інтэнсіўнай падрыхтоўкі ўжо даў пастаноўку ў Беластоку і мае намер выехаць у іншыя мясцовасці з гасціннымі выступленнямі. Цяжэй ідзе справа з музычным калектывам, які аддзелу надта ж патрэбны для больш эфектыўнай культурнай і выпачынкавай працы. Ці ў чвэрцьмільённым Беластоку няма маладых беларусаў, якія б захацелі зраўняцца ды перавысіць славуты музычна-вакальны калектыў з Дубін каля Гайнаўкі?

Прэзідыум высока ацаніў дзве вельмі ўдалыя свае імпрэзы: Ноч Купалы на рацэ Нарве з 6 на 7 ліпеня і Беларускі фэстын у Беластоцкім амфітэатры 20 ліпеня г.г. Якраз яны паказалі, што беластачане любяць і шануюць беларускую песню, музыку, слова і хочуць, каб такія мерапрыемствы праводзіліся часцей. Аддзел ужо цяпер пачаў падрыхтоўку да правядзення іх у больш багатай і разгорнутай форме ў будучым 1986 годзе.

Аніяк не можа зварухнуцца з месца справа запачаткавання навучання беларускай мовы ў горадзе Беластоку. Хоць аддзел прыкладае да гэтага многа стараннаў і робіць усялякія за-

(Працяг на стар. 6)

(Працяг са стар. 1)




данімам засакрэціўся нехта з колішняй эліты).

Чытаю, во, адгалоскі ў „Ніве", і думаю сабе: як усё змянілася, час не стаіць на месцы! Той жа Балкавыцкі, наш жалезны галоўны рэдактар, пускае ў друк рэчы і думкі, за якія калісьці, мякка кажучы, прагналі б яго з пасады! Сумныя гэта рэфлексіі для мяне, кандыдата ў баязліўцы. Зарана пастарэў я, замоцна перажываў, выдаткаваўся?! Трэба жыць памалей — навука з таго для тых, хто малады яшчэ. І асцеражней, абавязкова дадам. А маладыя, як маладыя: Куптэль, напрыклад, склаў рэцэпт дзейнасці гуртка БГКТ. Успомнілася — усё тое было, і не толькі ў гаварэнні, Міхась. Некалі рабілі так у сапраўднасці, і зусім не інцыдэнтальна. Як і было некалі амаль дзвесце школаў, заўваж, беларускіх або з беларускай моваю як прадмет. А ў іх каля дваццаці тысяч вучняў. А цяпер? Сотні, калі не тысячы ўжо ж выпускнікоў так званых беларускіх ліцэяў, якім і ў галаву не прыходзіць буквaрны прынцып нацыянальнай годнасці (А. Барскага „На мяжы", 22.IX.). Магістры беларускай філалогіі і іхнае макаранічнае пісанне, прытым з памылкамі! — Ці ўсё тое таксама растлумачым парабкоўскім комплексам горшасці, нянавісцю да свайго радаводу і кплівым рогатам яснавяльможнай Гісторыі, пані на Беларусі?

Што мяне ўражвае ў апошняе пяцігоддзе? Незвычайная дагэтуль свабода гаварыць і пісаць, з якой усё не магу звыкнуцца (калісьці за непараўнальна меншае „прамывалі мазгі"!). І, фактычна, у сённяшніх дыскусіях я не партнёр, а проста кансерватар. Той страх так замарозіў маё развіццё?! Гэта на выгляд жарт, але я — усур'ёз (і Дубіна тут неяк, відаць, падтрымае мяне). Намёк Сцяпана на адлучэнне некаторага патэнцыялу актываў Беларускага таварыства інстынктыўна пераконвае мяне. І пра гэта, магчыма, вартавала б асобна пагаварыць... Мы занадта універсальна падыходзім да высвятлення і разумення прычынаў рэдукцыі нашага беларускага жыцця, яго заміранне. Катэгарычны я? Няхай. Куптэль указвае на паказуху ў трыццацігадовай дзейнасці БГКТ. Адначасна апраўдвае ён тое слушным сцвярджэннем, што мыльныя пухіры прыгожа лёталі тады па ўсёй Польшчы (за што яна з натугаю расплачваецца). Жыццё помсціць фікцыі, як прырода помсціць хваробамі за глум над ёю! Кіраўніцкія асяроддзі беларускага руху — што менавіта праваронілі ды прагаварылі ўпустую, калі аказваецца ўжо, усе мы селі на дне рэгрэсу? Курчымся да памераў грамадскай няважнасці, экзатычнай дзіковінкі або сектантаў, на якіх глядзяць з паблажкаю. Няўжо нікому не шкода жыцця свайго дзеля гэткіх вынікаў? — пытаю самога сябе, але і свайго пакалення пяцідзесяцігодкаў шасцідзесяцігодкаў (тыя, што адыйшлі ў векавечнае, не мелі

(Працяг на стар. 4)

(Працяг са стар. 3)



падобнай згрызоты, рэчаіснасць была ружавейшая, нават бэгакатоўская). Справа не ў тым, каб валачы на эшафот старыя кадры. Яны працавалі ў рамках магчымага, ды і свайго таленту. З'яўляюцца маладабеларусы. Гэта іх погляды і ацэнка стануць дамінуючымі, ім належыць будучыня. Так было заўсёды. Якім словам успамінацьмуць нас — мяне, і цябе, Сцяпане Дубіна, і ўсіх іншых, у чые рукі было дадзена тое, што, мабыць, на выраст завем беларускім рухам?.. Дакладней: Беларускае грамадска-культурнае таварыства як экспанент спецыфічных патрэб беларускай нацыянальнай меншасці ў Польскай Народнай Рэспубліцы.

**Аляксандр Анташэвіч**

### ГУТАРКА З ПРАЎНУЧКАЮ

У „Ніве" ад 30 чэрвеня Ф. Хлябіч пытае, чаму „Ніва" неахвотна піша пра мінулае, якое ён сам перажыў. Прачытаўшы яго публікацыю „На заробкі", стаецца зразумелым, што Фёдар Хлябіч сербануў, як то кажуць, трошкі гора. Аднойчы праўнучка мяне запытала: „Дзеду, чаму ў цябе чорныя пазногці на нагах?". Я адказаў: „Дзетка, табе цяжка зразумець гэта. А яно ад хадні босымі нагамі поначы. Не адзін каменьчык збіў я гэтымі нагамі". „А чаму ж ты, дзедку, не абуўся?". „Не меў у што, даражэнькая". „То чаго ты хадзіў, як не меў у што абуцца?". „Хлеба шукаў, дзетка". „А чаму ж ты яго не купіў у спулдзельні?".

Гэтым пытанням не было канца. Трэба было шукаць нейкага выхаду. Узяў я яе, пасадзіў на калені, пацалаваў у галоўку і кажу: „Не распытвай, вырасцеш, дазнаешся, а цяпер бяжы, там кураня палезла ў шкоду".

Пра мінулае трэба пісаць і рэдакцыя павінна гэта друкаваць. Знаючы мінулае, можам ацаніць сучаснае. Пра мінулае трэба пісаць, бо жывуць яшчэ сведкі, якія пацвердзяць, што гэта не хлусня.

Едучы аднойчы на Мазуры, мне давялося начаваць у рабочай гасцініцы цукроўні. Да сезона была яна свабодная і магла прымаць гасцей. Чысціня, парадак, ложкі ў рады, з мяккімі сяннікамі, з чыстымі прасцінамі, падушкамі і мяккімі пледамі. Ляжаў я ў такім ложку і не спалася мне. Успомнілася мне рабочая „гасцініца", у якой я жыў у 1922 годзе. Пражывалі там тады рабочыя недалёкага тартака. Дзяржава была бедная пасля цяжкай вайны. Прафсаюзаў можа яшчэ і не было, мы пра іх не чулі, ды каб і былі, ніхто з нас ім не паскардзіўся б. Кожны быў рады, што хоць мае нейкі прытулак і заробак на невялікі кусок чорнага хлеба — ратунак ад голаду.

У вялікім драўляным бараку каля сценаў былі нары, а на іх ляжала не засланая нічым салома. Лягалі рабочыя адзін каля аднаго, і мужчыны і жанчыны, жанатыя і халастыя, малалетнія і дзеці. Нядоля ўсіх раўняла, ніхто ні з каго не смяяўся,

(Працяг на стар. 5)



Восень. Фота Юркі Трачука.




# КРЫЎДА БАБУЛІ ГАНДЗІ

Сядзім на лавачцы дзядзькі Косці і чакаем „малачарні". Сёння пятніца, але чамусьці чакаем даўжэй. Заўсёды малако прывозяць у дзевяць гадзін, а сёння ўжо дзесятая і яшчэ няма. Людзі з крамы выносяць учарашні хлеб, ніхто не збіраецца чакаць сённяшняга, бо часу не хапае. На лавачцы сядзіць пяць чалавек. Сядзіць дзядзька Косця і нейкі старэйшы мужчына ў акулярах, а таксама дзве старэйшыя жанчыны: баба Верка і баба Гандзя, ды я. Да бабы Веркі падыходзіць незнаёмая жанчына і пытае, ці яе дачка будзе ў гэтым годзе прымаць зёлкі, бо яна недзе чула, што ўжо працуе малочніцай. — І нічога, што ў злеўні прымае малако, — гаворыць Верка, — яшчэ ёй хапае часу, каб гаспадарку абрабіць і зёлкі прымаць. — Ну, добра, то скажыце ёй, што прывязу ў гэтым тыдні, — задаволена гаворыць жанчына і зараз жа заяўляе: — далей у вёску не пайду, бо зараз павінен мой знаёмы ехаць трактарам, то завязе ў Нараўку. Бывайце, пайду і пастаю каля злеўні, мо будзе ехаць. — Бывайце! А зёлкі смела прывозьце, — заахвочвае бабка Вера.

Па дарозе бяжыць хлопчык. аказваецца, унук бабы Веркі. — А ты, Мар'юш, куды ідзеш? — пытае баба Верка. — Іду паглядзець тэлеферыі, — кажа хлопец і хуценька падбягае да бабулі.. — Бярыце дзесяць злотых, — гаворыць смеючыся. — Ну, а адкуль ты іх узяў? — пацікавілася бабка Вера. — А я лёсы цягаў, — кажа малы і подбегам накіроўваецца дадому. — Ну, добры хлопец, выйграў і бабулі аддаў, — з нейкай зайздрасцю гаворыць баба Гандзя.

У спажывецкую краму то прыходзілі, то зноў выходзілі людзі з поўнымі торбамі. Вось ідзе дачка бабы Веркі, накіроўваецца да нас. — Купіла хлеб. хаця не вельмі свежы, але чакаць не буду, бо на луг трэба ехаць, — дае буханку маці і хуценька ідзе дадому.

— Ну, цяпер людзі без работы сядзяць, — адазвалася баба Гандзя. — То камбайна ждуць, то снопавязалак. Дзеці на тэлевізар дзівяцца, а рабіць — не вельмі. Калісь, помню, усё рукамі рабілі. Бульбу матыкай садзілі, пасля дзюбалі і горталі. Палолі сачэўку дробную і рагатую, жалі жыта сярпамі. Льны, каноплі палолі, пасля рвалі, слалі, трапалі. Нават дзеці трапалі лён і каноплі. Як малыя былі, то столачкі падстаўлялі і так трапалі. Зімой пралі, ткалі. Цяжка было жыць. Божа мой. Божа, колькі я цэлае жыццё папарабіла! Помню, забралі майго ў войска перад вайною. Нават жаць не памог і я сама ўсё зжала. Ураджай быў добры таго года, але мяне нічога не цешыла, бо яго няма, а тут дачка нарадзілася. А такая нядобрая была. Не магла я дачакацца, каб год мінуў. Усе дзеці ў мяне былі такія. Я нават не верыла, што ў людзей ёсць добрыя дзеці. Так рабіла, рабіла, а цяпер кажуць мне — ты лень і нічога рабіць не хочаш. Ну, а што я магу цяпер рабіць? Хварэю часта, аперацыю мне рабілі на вочы, слаба бачу, — паківала сумна галавою бабуля. — Ужо, ведаеце, так мне крыўдна, але што зробіш?

— А мне яшчэ ніхто не сказаў, што я гультай. Калі я захварэла, то адразу сказала дзецям, што ўжо буду толькі гусей пасвіць. Дачка сказала, добра і гэта. Сын з нявесткай таксама нічога не гаварылі. Можа яны між сабою па-рознаму гаварылі, але мне не сказалі ніводнага дрэннага слова, — кажа Верка.

— Ну, „малачарня" едзе! — крыкнуў нехта, і ўсе бяжым у краму. Дастаўцы ўносяць малако, смятану, тварог, сыркі і швейцарскі сыр. Прадаўшчыца важыць сыр і тварог, а пасля падпісвае квітанцыі і пачынае прадаваць. — Што? Толькі адна транспарцёрка малака і смятаны? — дзівуюцца людзі. — А што, каб мне пасля праз два дні ўсё пакісла? — спакойна нібыта адказвае, нібыта пытае прадаўшчыца Ванда. — У панядзелак колькі захочаце, столькі і купіце, а сёння што ёсць, тое і купляйце. Мяне пытае першай, чаго хачу, бо я з малым на руках. Хачу купіць чатыры літры малака, але дае толькі тры. Смятану і сыр бяры колькі хочаш, а малака найбольш тры літры. Хаваю пакупкі ў торбу, плачу грошы і выходжу на свежае паветра.

**Аўрора**

# МЯНУШКІ НАРАЎЧАНСКАЙ ГМІНЫ

Я вельмі ўдзячна Алене Анішэўскай, што напісала, адкуль бяруцца мянушкі. Я ўжо сама думала напісаць аб гэтым, але баялася, каб рэдакцыя не пагнявалася. Цяпер, калі зрабіла гэта карэспандэнтка, старэйшая вопытам, то хачу і я. Напішу, якія мянушкі паявіліся і зніклі, або існуюць дагэтуль у трох суседніх вёсках Нараўчанскай гміны.

### ВЁСКА ПЕРШАЯ І ЯЕ ХУТАРЫ

„Гвоздзік" — такую мянушку меў каваль. Так яго назвалі, бо любіў вельмі сварыцца. Амаль кожнага абсмяяў. Заўсёды ведаў, дзе што робіцца. Аднойчы нехта сказаў: кругом уваб'ецца, бы той гвоздзь. Так і назвалі яго „Гвоздзікам". Калі хто з ім сварыўся, казаў проста: „Гвоздзь". Гэтая мянушка перайшла толькі на дзяцей, але пасля занікла.

„Валерыкавы" — мянушка паўстала ад продка. Хаця ён даўно не жыве, але яго імем называюць дзяцей і ўнукаў.

„Герасімавы" — таксама ад продка.

„Ясечкавы" — мянушка паўстала яшчэ пры жыцці Яся. Яго жонку назвалі „Ясечыхай", а яго дзяцей „Ясечкавымі".

„Зорачка" — чаму такая мянушка, ніхто дакладна не ведае.

„Калінка" — так назвалі аднаго хлопца. Клікалі яго Коля, але хтось назваў „Калінка" і так засталося. Калі хлопец выехаў у горад, знікла і яго мянушка.

„Ёлкавы" — гэтая мянушка паўстала цікавым спосабам. Адзін мужчына ўзяў жонку з далёкай вёскі. Заўсёды хваліўся, што ў яе родзе ёсць багаты дзядзька, па прозвішчу „Ёлка". Так і назвалі ўсю яго сям'ю, нават яго маці.

„Смаковы" — на гэтую мянушку заслужыў адзін з продкаў. У мінулым была гэта вельмі бедная сям'я. Адзін з яе членаў, калі быў у каго ў гасцях, ці так зайшоў да каго і трапіў на абед ці вячэру і яго пачаставалі, то ядучы часта паўтараў: „ну, і смак". Адтуль зарабіў мянушку „Смак". Яго жонку звалі „Смачыхай", дзяцей „Смакамі", або Смачкамі". Хаця „Смак" і „Смачыха" не жывуць ужо, але мянушка засталася.

„Булавы" — так называюць двух старэйшых братоў. Праўдападобна таму, што адзін з іх мае вялікую галаву.

„Шулякі" — так гавораць на двух братоў. Яны вельмі сварлівыя і на чужое ласыя.

„Пэтруковы" — мянушка паўстала ад імя продка, якога клікалі Пэтрук.

„Лістаношавы" — мянушка выводзіцца ад таго, што адзін з членаў сям'і быў доўга лістаношам. Хаця і перайшоў ён працаваць на другую працу, усётакі людзі засталіся пры мянушцы.

„Юлішча абгарана" — так называюць старую жанчыну, якая

# ПЛЕНУМ АДДЗЕЛА БГКТ У САКОЛЦЫ

Распачаўся новы культурна-асветны год. Патрэбныя новыя намаганні, ініцытывы, добрая воля і самаахвярнасць. Каб актывізаваць усе гурткі на ніве беларускай культурна-асветнай працы, прэзідыум Сакольскага аддзела БГКТ на дзень 6 кастрычніка склікаў пленарнае пасяджэнне. У ім прыняло ўдзел 30 асоб з усіх 10 гурткоў БГКТ, у якіх налічваецца больш як 200 членаў.

Адкрываючы пасяджэнне, старшыня аддзела Мікалай Байгуз запрапанаваў ушанаваць хвілінай цішыні нядаўна памёршага члена рэвізійнай камісіі аддзела Расціслава Мадзалеўскага.

Затым старшыня паінфармаваў прысутных аб дзейнасці БГКТ на Сакольшчыне ў апошнім перыядзе.

І так, адбылося 16 сходаў у паасобных гуртках БГКТ. Прынята 11 новых членаў. Добра арганізаваны былі два народныя фэстыны БГКТ — у Піражках і Гаркавічах. І справа найважнейшая: у Астраўку рэактывавалася навучанне беларускай мовы ў пачатковай школе, на ўрокі якой ходзіць 16 школьнікаў. У гэтым дапамог фэстын БГКТ, на якім людзі слухалі даклад і мастацкія выступленні на беларускай мове, дапамог сакольскі актыў на чале з Аляксандрам Рафаловічам. Але найбольшую работу зрабілі мясцовыя настаўнікі, за што ім належыцца шчырая і сардэчная падзяка. Старшыня аддзела Мікалай Байгуз гаварыў і аб недахопах у працы, і аб цяжкасцях, і аб патрэбе разбудовы арганізацыі.

Затым выступіў сакратар Галоўнага праўлення БГКТ Віталі Луба. Ён расказаў удзельнікам пленума аб планах працы ГП БГКТ у новым культурна-асветным сезоне ў сувязі з набліжаючымся юбілейным годам нашай арганізацыі (XXX гадавіна БГКТ і яго прэсавага органа „Нівы"). У сваёй прамове шмат увагі прысвяціў ён задачам аддзелаў, патрэбе супрацоўніцтва з іншымі арганізацыямі ў галіне развіцця культурнай дзейнасці і ўдасканальвання праверанных форм працы.

Пасля прамовы сакратара ГП распачалася дыскусія.

Штатны працаўнік, інспектар ГП на Сакольскі і Дуброўскі аддзелы Аляксандр Рафаловіч падкрэсліў вялікую заангажаванасць некаторых БГКТоўцаў у арганізаванне мерапрыемстваў аддзела. У апошнім часе члены БГКТ з Піражкоў і Гаркавіч праявілі сябе ў арганізаванні фэстынаў. А ўсе члены Сакольскага аддзела належна выконваюць свае статутовыя абавязкі. у тым ліку і аплачванне складчын, якія выкананы ўжо за бягучы год у 90 прац. Прапанаваў ён. каб аднавіць наваготнія ёлкі для дзяцей, на якія прыходзілі таксама старэйшыя людзі і пасля ёлкі арганізоўвалі вечарыны, якія спрыялі гуртаванню актыву аддзела.


Старшыня Сакольскага аддзела БГКТ Мікалай Байгуз.

Аляксандр Лісоўскі ўзняў пытанне наконт павелічэння ў два разы, а нават і больш, членскіх складчын, з тым, што частка гэтых грошай аставалася б на дзейнасць аддзела.

Уладзімір Жамойда і Анатоль Шагаловіч гаварылі, што трэба ўшанаваць памяць Сяргея Прытыцкага і ў Крынках назваць вуліцу або пасёлак яго імем.

Уладзімір Цілюлька звярнуўся з заклікамі: „Кожны член БГКТ — падпісчык „Нівы", „Кожны член БГКТ — ахвярадаўца пэўнай сумы грошай на пабудову Беларускага музея ў Гайнаўцы". Далей ён гаварыў станоўча аб публікацыях „Нівы" і беларускіх радыёперадачах у Беластоцкім радыё, і адначасова выказаўся крытычна адносна таго, што вельмі рэдка публікуюцца матэрыялы з Сакольшчыны, якая мае і добрых гаспадароў, і перадавых людзей, якіх варта папулярызаваць.

Аляксандр Піруга выказаў незадавальненне з таго, што беларускія песні ў радыёперадачах вельмі часта абрываюцца недзе ў палавіне, а многія ж беларусы запісваюць іх на плёнку.

Іван Сідар прысвяціў сваё выступленне мінуўшчыне, перыяду санацыйнай Польшчы, калі здзекваліся над беларускай культурай, калі беларускіх дзеячоў — арганізатараў культурнай дзейнасці і беларускага школьніцтва праследавалі і саджалі ў турмы. „За беларускую культуру нас білі, — гаварыў ён. — А цяпер свабода і раўнапраўе, дык трэба шанаваць сваю мову і культуру".

Член Прэзідыума ГП БГКТ, журналіст „Нівы" Міхась Хмялеўскі выказаў думку наконт стварэння лектарскага пункту, у якім бы час ад часу праводзіліся гутаркі і даклады на тэмы беларускай нацыянальна-гістарычнай свядомасці.

Падсумаваў дыскусію старшыня аддзела Мікалай Байгуз, які заахвочваў усіх членаў БГКТ да яшчэ большай актыўнасці для нашай супольнай справы. Ён, як і іншыя выступаючыя, гаварыў аб грамадзянскім абавязку 13 кастрычніка: аддаць свае галасы за прапанаваных кандыдатаў у паслы Сейма.

Пленум закончыўся выбарам адной асобы ў рэвізійную камісію аддзела на месца памёршага Расціслава Мадзалеўскага. Аднагалосна выбраны быў Аляксандр Лісоўскі.

Тэкст і фота — **Міхася Сваяка**

---

перажыла пажар усіх будынкаў. „Юлішча" ад імя мужа — Юлісь зваўся, „абгарана", бо абгарэла.

„Баюся" — так называлі адну жанчыну, якая прыйшла сюды з вёскі, дзе мякка гаворадь: баюсе, зачэшусе. Так і да смерці жанчына засталася „Баюсяй".

„Канада" — гэта мянушка паўстала нядаўна. Адзін жыхар вёскі паехаў на нейкі час да цёткі ў Канаду. Працаваў на яе ўласнай фабрыцы і зарабіў многа грошай. Прыехаў назад і, калі піў з мужчынамі, хваліўся, як добра было ў Канадзе. „Канадай" яго і празвалі.

„Пшыяцелю" — так называюць аднаго мужчыну, які, калі з кімсьці размаўляў, заўсёды любіў паўтараць: „А муой ты пшыяцелю каханы!

„Башмакі" або „Башмаковы" — так называюць наследнікаў даўно памершага мужчыны. Мянушку гэтую прыдумала сама яго жонка. Мужчына быў вельмі стары і нядужы. Амаль цэлая сям'я біла яго і прымушала да цяжкай працы. Аднойчы жонка крыкнула на яго: „ты, башмаку чортаў". Так і засталася мянушка.

„Зуны" — мянушка паўстала ад скарочанага слова бізуны. Бацька і дзед цяпер багатых людзей даўней часта паўтараў: „Ой, голыя мы, як бізуны".

„Католікі" — таму, што каталіцкага веравызнання. Цяперашняя сеньёрка роду калісьці вельмі ганарылася гэтым і пры кожнай нагодзе паўтарала: „Осо, мы католікі".

„Булка" — гэтую мянушку таксама прыдумала жанчына. Муж яе пагнаў пасвіць кароў ажно ў Пэчалава (так называўся ўчастак лесу). Жонка зварыла абед і выйшла за гумно і давай крычаць як мага найгалесней: „Булко, булко, хадзі есці, булко".

„Ліска" — назвалі так жанчыну, якая была вельмі хітрая і невялічкая.

„Базыле" — так гавораць на двух старых братоў і жонку трэцяга брата. Многа год таму жыла жанчына, якая сварылася з людзьмі. Непадалёк ад яе хаты рос лес, і, калі яна ўбачыла, што людзі збіралі грыбы, то праганяла іх. Заўсёды крычала: „Вонце адсюль. Мне так цяжка было іх гадаваць, а вы іх забіраеце". Аднойчы нехта сказаў: „Злосная, як базыліха". Так і пачалі называць „Базылювы", або „Базыле".

„Шматка" — так называюць мужчыну, які ходзіць, шырока расставіўшы ногі.

**ХУТАРЫ**

„Зацерка" — адзін мужчына спяваў такую песеньку: „Зацерачка закіпае, тата маму зачапае. Зацерачка клекчэ, тата мамі шэпчэ". Так і застаўся „Зацеркай".

„Амерыканка" — так празвалі жанчыну невысокага росту. Аднойчы хтосьці сказаў: „Малая, як курка-амерыканка". І так засталося. Яе сына называлі „Амерыканцам".

„Токал" — мянушка паўста-

(Працяг на стар. 6)

---

(Працяг са стар. 4)




ніхто не меў ніякіх непрыстойных думак. Кожны хацеў аднаго, абы хутчэй заснуць, абы адпачыць. І калі гасілі святло, то хоць было каму піць нашу кроў, бо ў адзежы жылі вошы, а з шпараў баракаў вылазілі мільёны прусакоў, жоўтых, агідных, крыважэрных, то аднак усе засыналі каменным сном. Каб зразумець, колькі было тых вошай, скажу так: ніхто іх не біў традыцыйным спосабам, іх з большага мы абтрасалі над вогнішчам, якое распальвалася кожны дзень якраз дзеля гэтага.

Хто мне цяпер паверыць, што гэта праўда? Сведкі, якія дзялілі са мною гэты лёс, паўміралі. Але веру, што ёсць людзі, якія бачылі і горшае, і яны мне павераць, бо на долю майго пакалення выпалі цяжкія гады. Як кажа паэт: „Не прасіце светлых песень у мяне, бо як вам заспяваю, жаль вам душу страсяне".

Такім было нашае мінулае.

**Дзед Кастусь**

---

(Працяг са стар. 2)

## НА МЯЖЫ

Тры гады таму назад мой сваяк здаваў у Варшаве экзамен на медыцыну ў СССР. Спытаў мяне, што мае пісаць у рубрыцы „narodowość". Я яму адказаў: „Пішы праўду". А ён мне на гэта: „Але па праўдзе можна прайграць". Я яму на гэта: „Лепш прайграць па праўдзе, чым выйграць на мане". „Добра, — адказаў ён, — але калі з рацыі сваёй беларускай нацыянальнасці не здам экзамена, то вы будзеце вінаваты". „Гэта глупства, пішы праўду", — параіў я яму канчаткова.

Кандыдат у студэнты напісаў праўду аб сваім беларускім паходжанні. Экзамен здаў. Быў высланы ў Адэсу і зараз ён ужо студэнт IV курса медыцыны.

Труслівыя людзі, а такіх сярод нашага племені больш чым трэба, ахвотна карыстаюцца манною і ілгарствам. Асабіста вельмі шкадую, што дагэтуль, мабыць, ні адзін беларус не быў пакараны або прынамсі аштрафаваны за тое, што ўводзіць у зман улады, ілгучы ў сваіх анкетах у справе нацыянальнай прыналежнасці і роднай мовы. Прыдалося б уляпіць такому штраф у размеры некалькіх дзесяткаў тысяч злотых, можа, тады паразумнеў бы.

**Алесь Барскі**

---




Ад новага года пачнем друкаваць у „Ніве" соннік. Друкаваць яго будзем паасобнымі старонкамі, і з іх кожны чытач зможа скласці сабе кніжку.

Каб не мець клопатаў з камплектаваннем сонніка, раім неадкладна выпісаць „Ніву" на цэлы год. Соннік будзе друкавацца ў кожным нумары на працягу цэлага года.

(Працяг са стар. 5)

## МЯНУШКІ НАРАЎЧАНСКАЙ ГМІНЫ

ла ад таго, што ў хаце быў замест падлогі зроблены ток з гліны.

„Саладуха“ — гэтую мянушку меў мужчына, які ўсё рабіў, як людзі казалі, „як мокрэ гарыт“.

„Манач“ — калі і як паўстала мянушка — невядома.

„Сідар“ — мянушка паўстала падобна, як „Зацерка“. Адзін з продкаў гэтай сям'і спяваў песню: „Сідар, Сідар-макацёр, на парозе бабу цёр. Як павэрне, баба пэрне. Як прыцісне, баба дрысне“. Вось як зарабіў Сідара.

„Калянавы“ — мянушку атрымаў некалькі дзесяткаў год таму адзін з продкаў. Пайшоў ён служыць да багатага селяніна на Лесну. Зімою той высылаў яго на працу ў Нараўчанскую гуту шкла. Аднойчы, адпраўляючы на работу, крыкнуў на ўсю хату, ажно на вуліцы чуваць было: „Констэнты, ты там не запамінай, я ці цалэ коляно менса вложыл“. Людзі гэта пачулі і празвалі „Калянам“. Яго даўно няма ў жывых, але яго наследнікаў так называюць.

„Шуйка“ — невядома, можа далёкі продак нейкім ілгуном быў.

### ДРУГАЯ ВЁСКА

„Сіруотка“ — мянушка паўстала ад звычайнага слова сірата. Адзін хлопец у дзяцінстве страціў абодвух бацькоў і так яго назвалі Сіроткай. Мянушка цягнецца ўжо многа год.

„Сібіракі“ — таму, што доўга жылі ў Расіі. З бежанства прыехалі апошнімі.

„Воўк“ — ад таго, што мужчына меў воўчы позірк.

### ВЁСКА ТРЭЦЯЯ

„Доўгі“ — так гавораць на аднаго высокага мужчыну.

„Субоцішыны“ — адкуль узялася такая мянушка, ніхто не ведае.

„Сяржантка“ — так называюць адну жанчыну, якая працавала сакратаркай у СОКу і мела ступень „пшодовніка“. Вось чаму стала „Сяржанткай“.

**Аўрора**

**Мімаходам**

## АХ, НАРАЎКА!

Якая яна прыгожая! Лес, пясок, рака. Прыемна тут! А вось і не ўсё ідзе па правілу. Ходнікі, па якіх ходзяць, шмат гадоў не рамантаваліся. Жыхары пасёлка і многія турысты ходзяць па вуліцы, бо яна асфальтаваная і роўная.

**Асот**

(Працяг са стар. 3)

## ПРАЦА РАЗГОРТВАЕЦЦА

хады, але пакуль што безвынікова. Нягледзячы на тое, ён не спыніць сваіх намаганняў і надалей будзе працаваць у гэтым напрамку, пакуль не дасягне пажаданых вынікаў. Родная мова павінна быць даступна дзецям беларусаў у Беластоку. Аднак аддзелу патрэбная большая дапамога бацькоў, настаўнікаў, асветных інстанцый у гэтай справе. Ад усіх нас залежыць, ці нашыя дзеці будуць вывучаць родную мову!

**(іс)**



Уезд у Музей беластоцкай вёскі.

# МУЗЕЙ БЕЛАСТОЦКАЙ ВЁСКІ

Адкрыццё кожнага новага культурна-асветнага сезона на Беласточчыне — гэта своеасаблівая падзея ў рэгіёне. Такая ўжо тут традыцыя, што на гэтай урачыстасці не толькі падсумоўваюцца вынікі культурна-асветнай дзейнасці за адышоўшы сезон ды вызначаюцца напрамкі і заданні на надыходзячы, але і наступае здача ў карыстанне грамадства новага аб'екта, важнага ў культурным жыцці рэгіёна. Гэтак было і сёлета.

Адкрываючы 30 верасня ў зале Дома прафсаюзаў у Беластоку ўрачыстасць, дырэктар аддзела культуры і мастацтва Ваяводскай управы Ян Трахімяк падкрэсліў, што нягледзячы на нялёгкі стан нашай гаспадаркі ўсё ж на Беласточчыне ў мінулым годзе даволі жыва развівалася культурнае жыццё і было здадзена ў карыстанне некалькі новых вясковых дамоў культуры, святліц, бібліятэк, удала прайшло шэраг імпрэзаў. Інтэнсіўна ішлі працы над пабудовай гмаху Вышэйшай музычнай школы, які будзе гатовы ў 1986 г., мадэрнізацыяй Драматычнага тэатра імя А. Вянгеркі, узвядзеннем вялікага культурна-асветнага комплекса на Сонечным Стоку ў Беластоку, пабудовай сучаснай бібліятэкі ў Бельску, рэстаўрацыяй помнікаў архітэктуры і пры іншых аб'ектах.

Побач з працягваннем або заканчэннем будаўнічых і іншых прац на гэтых аб'ектах, у надыходзячым сезоне будуць пачаты працы над стварэннем новых бібліятэк у Беластоку, Гайнаўцы, Тыкоціне і іншых мясцовасцях, пабудовай гмінных і вясковых асяродкаў культуры, між іншым, у Нурцы, Машчонай і інш. Культурна-асветная дзейнасць будзе накіравана на павышэнне яе ўзроўню, заціранне розніц паміж горадам і вёскай, развіццё больш рознабаковай дзейнасці на аснове мясцовага фальклору, абрадаў і звычаяў, сканцэнтраванне ўвагі на культурнай працы ў вёсцы і большай дапамозе аматарскаму руху і мясцовым яго дзеячам. Больш цеснае супрацоўніцтва будзе ладзіцца паміж культурнымі ўстановамі і школьніцтвам дзеля большага выхаваўчага ўздзеяння на моладзь і ўключэння яе ў культурнае жыццё рэгіёна.

Абяцае быць цікавым новы сезон на беластоцкіх сцэнах, канцэртных залах і экранах, між іншым, Лялечны тэатр рэалізуе для дарослых „Дэкамерона“ Дж. Бакачыо, пачне працаваць кіно „Відэо“, чарговая імпрэза „У пошуках фальклору“ адбудзецца ў Сямяцічах, у Беластоцкай філармоніі выступіць славуты савецкі віяланчэліст В. Бродскі, Ваяводскай бібліятэцы будзе прысвоена імя выдатнага дзеяча Адраджэння ў Польшчы і на Беласточчыне Л. Гурніцкага, а бібліятэка ў Тыкоціне — імя заслужанага (таксама для беларусаў Беласточчыны) этнографа, фалькларыста і гісторыка З. Глогера і інш.

І ў гэтай атмасферы ацэнкі здзейсненага і разважанняў над намерамі на будучыню ўдзельнікі ўрачыстасці наведалі Музей беластоцкай вёскі і пазнаёміліся са станам яго пабудовы.

— Гэты, адзін з найважнейшых музейных аб'ектаў не толькі Беласточчыны, але і ўсяе Паўночна-Усходняй Польшчы, ужо мае сваю гісторыю, — паінфармавала намеснік дырэктара Акруговага музея ў Беластоку Тамара Самуль, якая ўзначальвае гэтую пабудову. — Думка пра неабходнасць стварэння такога музея паўстала яшчэ ў 1970 г. План апрацаваў вядомы этнограф праф. І. Тлочэк, прапануючы размясціць музей каля палацовага парку на ўскраіне Харошчы. Аднак справа з розных прычын была адкладзена. Толькі ў 1976 г., дзякуючы ініцыятыве тадышняга віцэ-ваяводы З. Світая і ваяводскага кансерватара Е. Трыбурскага, яна аджыла. Было аж 11 розных прапановаў яго размяшчэння і 3 праграмы ўнутранага ўстройства. Урэшце ў 1980 г. гэтай справай заняўся Акруговы музей і давёў да таго, што канчаткова было вызначана месца пад музей, калектыў спецыялістаў на чале з дац. Г. Саўчук-Наварай з Беластоцкай палітэхнікі апрацаваў канцэпцыю ўстройства і 2 чэрвеня 1984 г. адбыліся закладзіны аб'екта.

Музей размяшчаецца каля Беластока, з правага боку шашы на Аўгустоў, у трохкутніку паміж гэтай шашою, чыгункай на Кузніцу і рэчкай Супраслю,

**ШЛЯХАМ ГАДОЎ**

# ПАД ПРАГНЫМ ВОКАМ

Зняволенне татара-манголамі ў 1237-1241 гадах земляў Паўночна-Усходняй Русі (на іх потым пачне фармавацца будучы рускі народ) і Паўднёва-Заходняй Русі (тут у пазнейшым часе будзе складвацца украінскі народ) не толькі запаволіла гаспадарчае, грамадскае, культурнае развіццё гэтых абшараў, але нават адкінула на некалькі стагоддзяў назад іх агульны ўзровень жыцця. Татарскія захопнікі не акцэптавалі панаючую тут раней еўрапейскую цывілізацыю, ігнаравалі ўсе яе нормы, затое насаджалі норавы, паводзіны і звычаі прымітыўных качэўных народаў Азіі. Увесь цяжар татарскай няволі зваліўся на працоўных: сялян, рамеснікаў, гандляроў. Захопнікі паслядоўна, што некалькі год, праводзілі дакладны перапіс насельніцтва, затым найладнейшую моладзь і найлепшых рамеснікаў выводзілі ў няволю — пераважна на продаж на незлічоных кірмашах нявольнікамі па ўсёй Азіі і Паўночнай Афрыцы, — а рэшту насельніцтва абкладвалі цяжкімі данінамі. Ад перапісу, вываду ў няволю ды данін былі звольнены князі і духавенства.

Амаль усе князі з захопленых татарамі земляў адразу падпарадкаваліся новай уладзе і сталі дапамагаць татарскім службоўцам-баскакам трымаць насельніцтва ў паслухмянасці, браць нявольнікаў і сцягваць даніны. А наколькі зневажаючымі былі адносіны захопнікаў да скораных імі людзей, найлепш відаць з запісу сучасніка тых падзей, польскага летапісца Яна Длугаша:

„Гэтая няволя была такой цвёрдай і агіднай, што сам князь маскоўскі насупраць паслам татарскага хана, а нават простым і нягодным яго слугам, прыбыўшым у Маскву браць даніну, або з іншым якім-небудзь даручэннем, пяшком на прывітанне выходзіў, седзячым на коні падаваў з самай ніжэйшай пакорлівасцю кубак кабылінага малака, а праліўшы яго кроплі мусіў злізваць з конскай грывы“.

І ўсё ж рускія князі, каб утрымацца пры ўладзе, з усіх сіл выслужваліся татарам, паранейшаму выдзіралі адзін ад другога ўдзелы, землі, гарады, сёлы адзін на другога скардзіліся ды паклёпнічалі ў баскакаў і ханаў. Татары, рассуджваючы іх, заўсёды прыхіляліся да тых, хто вярней ім служыў ды прывозіў большыя падарункі. А за кожнае найменшае нават непаслушэнства або непадпарадкаванне татары каралі смерцю князёў, вырэзвалі да нагі насельніцтва, рабавалі ўсю яго маёмасць, знішчалі дашчэнту будынкі ды пільна сачылі, каб былі цалкам разбураны і раскапаны крэпасці і іншыя ўмацаванні. І так, уся Паўночна-Усходняя і Паўднёвая Русь цэлую чвэрць тысячагоддзя гібелі ў жахлівай татарскай няволі, якая паклала непазбыўны, цяжкі, чорны адбітак на ўсю далейшую гісторыю гэтых земель. Не забываймa ж, што толькі вялікі князь маскоўскі Іван III Васільевіч у 1480 годзе перастаў даваць даніну татарам і ад таго часу рускі народ стаў

яго тэрыторыя пачынаецца за рэстаранам „Вікінг“ і канчаецца пляжам „Юраўцы“ на р. Супраслі. Гэты абшар каля 100 га, у тым ліку 27 га маладога лесу, вельмі дакладна адлюстроўвае беластоцкі краявід: хвалістыя палі, пералескі, надрэчныя лугі, рэчка...

„Стварэнне музея будзе садзейнічаць захаванню самых каштоўных помнікаў народнай культуры, — чытаем у „Канцэпцыі устройства музея“. — Не толькі адных помнікаў драўлянага будаўніцтва, але таксама майстэрань, прыладаў і прадметаў, якія знаходзіліся ў гэтых будынках. Такім чынам ён будзе спрыяць захаванню традыцыйных спосабаў вытворчасці, працягванню колішніх гаспадарчых абрадаў і звычаяў, якія засноўваліся на гадавым абрадавым кругу.

Паўстаючыя цяпер сучасныя метады сельскагаспадарчай вытворчасці і разам з імі новы тып сялянскай сям'і давядуць да пераўтварэнняў, а нават цалкам загіне традыцыйная культура сялянскай грамады“.

Аднача́сова музей будзе весці навукова-даследчую работу па ахове самых вялікіх каштоўнасцей народнай культуры, каб перадаць іх сучаснасці.

А што плануецца сабраць з усяе Беласточчыны, ад багнаў над Бебжай пачаўшы і на сухадолым Бузе закончыўшы, і перанесці ў музей?

Многае, вельмі многае трэба зрабіць і ўсё з думкай, каб як мага дакладней і падрабязней захаваць культуру беластоцкай вёскі ад самых даўніх часоў і да паловы нашага стагоддзя. Будзе тут вёска-шэрагоўка з 8-12 рознымі сядзібамі, разам каля 40 будынкаў і іншых аб'ектаў, у тым ліку кузня, калодзеж, капліца і інш. Перанясецца вялікая вёска-вуліцоўка з 10-14 разнастайнымі сядзібамі, з царквой і касцёлам ды аб'ектамі, звязанымі з гэтымі храмамі, ветраком, карчмой і інш. Адродзіцца панскі двор з усімі ўласцівымі яму будынкамі і абсталяваннем, а таксама шляхецкі засценак. Не будуць забыты рознага тыпу хутары, а таксама сядзібы млынароў, леснікоў і іншых рамеснікаў і службоўцаў з розных часоў. Не абыдзецца, вядома, без воднага млына, фолюша і іншых саматужных рамёстваў, якімі была багата колішняя Беласточчына. У музеі будзе сама меней 30 сялянскіх сядзібаў, 32 жыллёвыя будынкі, 80 гаспадарчых і 20 рамесніцкіх аб'ектаў, 2 храмы і г.д. — разам 135 аб'ектаў. А кожны з іх будзе абсталяваны так, быццам у іх жывуць ды працуюць людзі, таму мяркуецца, што дзеля гэтага патрэбна каля 25 тысяч розных экспанатаў ад вялізных колаў у ветраку да малюсенькай касцяной іголкі краўца ўключна.

А што ўжо зроблена ў музеі?

Ужо стаяць або заканчваецца складанне: свірана (з Карчмішча каля Чорнай Беластоцкай), кузні (з Гарадка), хаты (з Пячышчаў каля Цеханоўца), клуні (з Дубровы каля Цеханоўца), хлява (з Тымянкаў каля Цеханоўца), леснічоўкі (з Крушніка) і іншых аб'ектаў. Падрыхтаваны да перавозу двор (з Бобры Вялікай каля Новага Двара), вятрак (з Жэндзянаў каля Тыкоціна) і іншыя будынкі. Сабрана значная колькасць экспанатаў для абсталявання гэтых аб'ектаў. Але ёсць і вялікія цяжкасці, асабліва з рамеснікамі.

— Дапамаглі нам сябры з Літоўскай ССР, — расказвае Т. Самуль. — Прыслалі нам двух спецыялістаў па кансервацыі драўлянага будаўніцтва і яны за 4 месяцы падрыхтавалі нам дзесяць цесляроў. Цяпер страшэнна нам патрэбны печнікі (здуны). А яшчэ большая патрэба ў саламяных кулiках для крыцця страхі. Плоцім па 35 зл. за кулік (з аднае тоны саломы можна накруціць кулікаў на 16 тысяч зл.). Людзі, вясковыя майстры, адгукніцеся!

Наогул жа Музей беластоцкай вёскі паўстае дзякуючы вялікаму ўкладу ўсяго грамадства. І так, за 1983 г. пры яго пабудове і абсталяванні грамадскія пачыны склалі суму ў 1 мільён 342 тысячы зл., а ў бягучым годзе гэтая сума дойдзе да 3 мільёнаў зл.

І яшчэ адно. Звяртаемся да ўсіх нашых чытачоў: беражліва і старанліва захоўвайце кожную колішнюю прыладу, рэч, будынак, самі і заклікайце да гэтага сваіх знаёмых, суседзяў. Калі што-небудзь такое маеце, паведамляйце ў Акруговы музей у Беластоку. Толькі супольнымі намаганнямі ўсіх нас можа паўстаць Музей беластоцкай вёскі — наш супольны музей!

Апрача азнаямлення са станам прац пры стварэнні Музея беластоцкай вёскі адкрыццё новага культурна-асветнага сезона было адзначана адкрыццём 1 кастрычніка сталай Галерэі сучаснага мастацтва ў Беластоку на вул. Ліпнёвага маніфеста (у папулярных „талерках“). Але пра гэта іншым разам.

**М. Гайдук**

Фота аўтара



**Падляшская хата ўжо амаль складзена.**

вольны ад татарскага ярма.

Усіх гэтых жудасцей шчасліва пазбеглі беларускія землі, якія былі ўз'яднаны ў Вялікім княстве Літоўскім. Паводле меркаванняў шэрагу вучоных, якраз тады і займелі яны назву Белая Русь — гэта значыць: рускія землі, вольныя ад страшэннага татарскага падданства.

Аднак у бок зямель маладога незалежнага Вялікага княства Літоўскага прагавітыя позіркі пачалі кідаць ягоныя суседзі. Паступова навокал яго вырасла варожая кааліцыя. З поўначы і захаду наступалі крыжакі, неспрыяльна адносіліся таксама Мазоўша і Малапольшча. З усходу і поўдня навісла сталая пагроза не толькі з боку татарскіх ханаў, але таксама іхніх падданых — рускіх князёў.

І так, усяго праз год пасля славутай бітвы пад Смаленскам, якой беларускія воі загарадзілі татарам дарогу на захад, — у 1239 г. татарскі падданы князь уладзімірска-суздальскі Яраслаў Усеваладавіч знячэўку захапіў Смаленск. Праўда, неўзабаве вымушаны быў вярнуць яго Вялікаму княству Літоўскаму.

Намнога больш назойліва і з лепшымі вынікамі пачалі атакаваць Вялікае княства Літоўскае паўднёвыя татарскія даннікі — валынскія князі Даніла і Васілька Раманавічы. Падчас іхніх нясслаўных уцёкаў ад татараў у Польшчу ды бяспечнае сядзенне ў мазавецкім Вышагрудзе, калі ўся Паўднёва-Заходняя Русь на смерць і жыццё змагалася з татарскай навалаю, Дарагічынскае і Берасцейскае княствы выкарысталі нагоду і далучыліся да Вялікага княства Літоўскага, слушна шукаючы ў ім больш надзейнай, чым валынскія князі, апекі і падтрымкі. І не памыліліся. Як ужо ведаем з папярэдняга адрэзка „Шляхам гадоў“ („Нескароныя“), у першых месяцах 1241 года ў жорсткай бітве пад Бярэсцем коштам жыцця мноства вояў з Берасцейскай, Дарагічынскай, Ваўкавыскай, Гарадзенскай і іншых зямель Вялікага княства Літоўскага было паўстрымана татарскае нашэсце на нашыя землі. Гэтая выдатная перамога ўзмацніла прыналежнасць Дарагічынскай і Берасцейскай зямель да Вялікага княства Літоўскага. І калі ў пачатку лета 1241 года князь Даніла Раманавіч, вяртаючыся з Вышагруда „в землю свою и приде ко граду Дорогычину и восхоте внити во град и вестьно бысть ему, яко: „Не внидеши во град!“ Оному рекшу, яко: „Се был град нашь и отець наших, вы же не изволисте внити вонь?“ И отъиде...“ — так маляўніча паведамляе Галіцка-Валынскі летапіс і далей дадае, што тое самае спаткала валынскіх князёў пад Бярэсцем: „Данилови же со братом пришедшу ко Берестью и не возмогости ити...“ і князі ні з чым мусілі падацца ў родны Уладзімір Валынскі, дзе пасля татарскага нашэсця ніводзін чалавек „не остал живый“ і ўсе цэрквы былі напоўнены трупамі.

І яшчэ адзін доказ, што Берасцейшчына ў 40-я гады XIII ст. уваходзіла ў склад Вялікага княства Літоўскага і не падлягала князям валынскім, знаходзім таксама ў тым жа Галіцка-Валынскім летапісе. У ім пад 1243 годам чытаем запіс, што калі Даніла знаходзіўся ў сваёй новай сталіцы,

(Працяг на стар. 8)




Дарагое Сэрцайка! Перапалка паміж мужчынамі і жанчынамі, якую прапануюць адкрыць Шукальнікі, нагадвае сямейную склоку, якую вынеслі на публічны агляд. Узаемным дакорам не будзе канца. А мо трэба крытыкаваць не тых, хто разводзіцца, а сам развод!

З'явіўся ж ён на свет як дэмакратычнае дасягненне грамадства, але сёння стаў сацыяльна небяспечным. Неўзабаве інстытут сям'і давядзецца ўводзіць, пэўна, у Чырвоную кнігу, паколькі сучасны шлюб — такое кволае, безымунітэтнае стварэнне, што не ўмее, ды і не жадае змагацца за сваё існаванне.

Жыць жа, дапускаючы магчымасць разводу, — гэта значыць асудзіць сябе на раставанне.

Што ж здарылася? Можа любоў пакінула наш свет? Не, апытанні сацыёлагаў паказваюць, што 85-90 працэнтаў шлюбаў заключаюцца па любві. Прычым гэтыя шлюбы парою распадаюцца часцей, чым спакойна-рацыянальныя саюзы. Надзея многіх маладажонаў, што благаславенне свяшчэнніка ці штамп у пашпарце маюць магічную ўладу, не спраўджаецца. Нейк я чуў нараканне нарачонай: „Нас прымусілі ў загсе чакаць тры месяцы, за гэткі час можна зусім пасварыцца!“

Па статыстыцы, другі шлюб мацнейшы, чым першы. Відаць, прайшоўшы школу першага, няўдалага саюза, людзі становяцца мудрэйшымі, талерантнейшымі.

Дык, выходзіць, развод і з'яўляецца той панацэяй, якой шукаем на сямейнае шчасце!

**Праходчык**

Перапалка, якой апасаецеся, ананімная. Калі і атрымаецца, нікому шкоды не зробіць, кожны з яе можа вынесці тое, што будзе лічыць прыгодным. Нягледзячы на агаворку, ваша выступленне таксама не пазбаўлена перапалачных эмоцый. Гавару не ў дакор.

ч.в.а. **Сэрцайка**




* * *

I снілася мне,
Што ты на небе,
А я на зямлі.
Ад цябе да мяне
Доўгая драбіна...
Цяжка, вельмі цяжка...
Але ўзышла.
Хвіліну з табою была,
Бура настала,
Драбіну захістала...
Ты астаўся ўгары,
Я паляцела ў бяздонне.

* * *

Мой свет далёка,
Там я і ты.
Мы — два паслы
Адной Айчыны,
Мы — два хісткія
журавлі.

**Ірэна Юрчук**




## НЕСАПРАЎДНАЕ ПРОЦІЯДДЗЕ

Сёння прапаную крыху даўжэйшы шпацыр. Не зважаючы на надыходзячыя халады, наведайма якія-небудзь большыя зараснікі або ўскраіну лісцевага лесу. Гэта ж ужо апошні тыдзень, у якім можна яшчэ захапляцца красою асенніх колераў лесу.

Наколькі захапляючая, непаўторная і прыемная мазаіка асенняга лесу! Шпацыруючы навокал лясной паляны, можам захапляцца ўсё новымі каляровымі кампазіцыямі, спавітымі асенняй смугою. Ці чалавек патраціць выдумаць нешта прыгажэйшае? Наталяючыся прыгажосцю асенніх малюнкаў, варта пашукаць раслінку, лісці якой нагадваюць адбітак конскага капыта. Расліна называецца падалешнік еўрапейскі (лацінская назва — Asarum europaeum, kopytnik pospolity — папольску, копытень европейский — па-руску). Гэта шматгадовая расліна, яна не паддаецца ўздзеянню восені — зялёная нават і ўзімку.




Падалешнік я назваў „несапраўдным проціяддзем“ таму, што ў сваім жыцці сустрэўся з ужываннем яго толькі як проціяддзя. Памятаю, калісьці нашую сядзібу апанавала плойма пацукоў. Змагаліся мы з імі рознымі спосабамі, але нічога не памагала. Нарэшце паклалі атруту. Пацукі паздыхалі, але адначасова пачалі здыхаць падсвінкі, што з’елі пацукоў. За жыццё свіней пачала змагацца бабулька. Як толькі западозрыла яна, што свінчо магло з’есці атручанага пацука, яго адразу паіла выварам з лісця падалешніку. Свіння неміласэрна ванітавала, але не здыхала.

Аднойчы ў Навасадах выварам з падалешніку ўдалося выратаваць жыццё няўдачных грыбнікоў, якія наеліся ядавітых грыбоў.

Расцёртае на парашок высушанае карэнне падалешніку таксама спрабавалі ўжываць як супрацьалкагольнае лякарства. Калісьці ім намагалася знеахвоціць да гарэлкі сваіх сыноў Пятрушчыха з Лядаў. Падсыпала ў бутэльку самагонкі парашку з падалешніку. Аднак калі паглядзела, як сыны, выпіўшы такой гарэлкі, пакутуюць, пашкадавала іх і спыніла далейшае лячэнне. Мабыць, не здагадвалася, што сваім добрым сэрцам асуджае сыноў на павольную алкагольную смерць.

Аднак падалешнік — гэта несапраўднае проціяддзе, таму што дапамагае толькі ванітаваннем. Прафесар А. Ажароўскі піша: „Прадукты з падалешніку пабуджаюць канцы нерваў органаў руху і ўнутранага выдзялення. Узмацняюць рух кішак, вентыляцыю лёгкіх, узбуджаюць дзейнасць потавых залоз, выдзяленне слізі ў страўніку і выдаленне мачы. Аднак гэтыя ўласцівасці практычна не выкарыстоўваюцца ў лячэнні, таму што ўжо нават малыя дозы прадуктаў з падалешніку ўзбуджаюць рух рэснічнай абалонкі верхніх шляхоў і выклікаюць ванітаванне, а крыху большыя дозы раздражняюць слізістую абалонку страўніка і выклікаюць рвоты, якія папярэджваюць даволі доўгі час непрыемнага ўзбуджэння і вялікага выдзялення слізі“.

У хатнюю аптэчку лісце падалешніку збіраюць падчас квітнення расліны ў чэрвені-ліпені, а карэнне — у кастрычніку або красавіку.

Наліўку на карэнні падалешніку як сродак, каб выклікаць ванітаванне, нарыхтоўваюць у прапорцыях 0,2-0,3 грама парашку на шклянку вады, а на моцны рвотны сродак — 0,5-0,7 грама на шклянку; на супрацьалкагольны сродак ужываюць 0,5 грама парашку на паўшклянкі гарэлкі.

**Б. Паскробка**

### Куток практычных ведаў

## ЗАХАВАЙЦЕ ДА ВЯСНЫ

**Бульба.** Ідэальныя ўмовы для захавання бульбы — сухое цёмнае прахладнае памяшканне, лепш за ўсё які-небудзь падвал. Трэба памятаць, што святло бульба вельмі не любіць, на святле яна выпрацоўвае саланін — шкоднае для здароўя чалавека рэчыва. Найлепшая тэмпература для яе захавання +3 — +5 градусаў.

Холаду бульба вельмі баіцца. Пры тэмпературы ніжэй нуля яна пачынае крухмал перапрацоўваць у цукар, робіцца салодкай, нясмачнай. Можна захоўваць у мяшках, а яшчэ лепш у драўляных скрынях з адтулінамі, каб цыркулявала паветра. Не трэба браць вялікія скрынкі, лепш браць невялікія і ставіць адну на адну. Калі створыце такія ўмовы, зможаце захаваць бульбу свежай амаль да новай. Каб пазбегнуць страт, кожныя 2-3 тыдні пераглядайце запасы, выдаляйце бульбіны, якія хоць крыху пачалі пускаць парасткі — гэта гарантыя захаванасці астатніх.

**Морква і буракі.** Іх захаваць на працягу года — да новых — складаней, але мець свежую моркву і буракі на працягу трох-чатырох месяцаў можна, калі скласці іх у скрыню і перасыпаць сухім рачным пяском і паставіць у падвал. Як і бульба, морква і буракі не любяць святла, любяць тэмпературу +3 — +5 градусаў. У каго няма падвала, можна трымаць іх у кладоўцы, але трэба глядзець, каб пясок быў крыху вільготны.

**Капуста.** Яе трэба старанна адабраць — на зіму лепшыя асеннія позния гатункі са шчыльнымі галоўкамі. Капуста таксама любіць сухое, прахалоднае цёмнае памяшканне. Укладваць капусту трэба на драўляных паліцах у адзін рад або ў скрынях з адтулінамі ці шчылінамі. Час ад часу капусту трэба праглядаць і здымаць верхняе завялае лісце.





(Працяг са стар. 7)

## ПАД ПРАГНЫМ ВОКАМ

у горадзе Халме (сённяшні Хелм — сталіца Хелмскага ваяводства ў Польшчы) аднойчы „прыбег да яго палаўчанін, які называўся Актай, і сказаў: „Батый вярнуўся з Венгерскай зямлі і выслаў двух военачальнікаў Манамана і Балая шукаць цябе“. Даніла замкнуў Холм і падаўся да брата свайго Васілька, забраўшы з сабой мітрапаліта Кірылу. Татары ж ваявалі да Валадавы і па азёрах шмат зла натварылі“. Абмінем тут вядомую палахлівасць князя Данілы, які не першы ўжо раз на адну чутку пра татараў уцякае, куды толькі ногі нясуць. Затое звернем увагу чытачоў на тое, што татарскія военачальнікі Манаман і Балай, спустошыўшы валынскую зямлю, дайшлі толькі да спрадвечнай мяжы паміж валынянамі і дрыгавічамі — горада Валадавы (сённяшняй Влодавы на Бузе) і азёраў каля вытокаў ракі Прыпяці. З гэтага вынікае: папершае, што тут яшчэ ў 1243 годзе была моцна бароненая берасцянамі і іх саюзнікамі з Вялікага княства Літоўскага граніца паміж Берасцейскім і Валынскім княствамі, а па-другое, татары, маючы ў памяці сваё паражэнне ў нядаўняй бітве пад Бярэсцем, не адважыліся напасці на Берасцейшчыну і задаволіліся „завадзваннем“ Паўночнай Валыні.

Таксама і князі валынскія Даніла і Васілька Раманавічы доўга не наважваліся нападаць на Берасцейскае і Дарагічынскае, а тым болей на Гарадзенскае, княствы, хоць ім да гэтага аж рукі свярбелі. І нездарма. Гэтыя княствы не былі знішчожаны татарамі, і з разбураных нашэсцем наезнікаў зямель масава прыбывалі сюды ўцалеўшыя ад смерці ці няволі сяляне, рамеснікі, купцы. Таму тут буйна развівалася гаспадарка, разрасталіся гарады, квітнеў гандаль. У Раманавічаў жа пакуль што была толькі прага захапіць гэтыя землі, але не ставала на гэта сіл.

Толькі пасля бітвы пад Яраславам у 1245 годзе, калі Даніла і Васілька, перамогшы канкурэнтаў да галіцка-валынскіх княжацкіх пасадаў, трывала замацаваліся самі на іх, яны паспрабавалі працягнуць рукі па суседнія беларускія землі. Перш за ўсё сягнулі па Пінскае княства, якое таксама было аб’яднана з Вялікім княствам Літоўскім. Але князь пінскі Міхаіл звярнуўся за дапамогай у Навагрудак, і вялікі князь літоўскі Міндоўг накіраваў у Пінск невялікі атрад з князем Айшвно Рушкавічам. У бітве пад Пінскам у 1246 годзе (паводле надта ж няпоўных датаў Галіцка-Валынскага летапісу) перамаглі князі валынскія. Аднак Міндоўг не палічыў справы прайгранай ды, відаць, і піняне не суцішалі сваіх лямантаў пра дапамогу ў змаганні супраць „татарскіх даннікаў“. У наступным годзе ён накіроўвае супраць Валыні князя Лінгевіна са значнай вайсковай сілай. Лінгевін дапамагае князю Міхаілу пінскаму пазбавіцца залежнасці ад валынскіх князёў, рабуе Паўднёвую Валынь ды „велик плен прияша“ з яе. Хоць палоннікі былі адбіты і сам Лінгевін паранены вярнуўся ні з чым у Вялікае княства Літоўскае, але Пінская зямля не спыніла свайго змагання супраць націску з боку галіцка-валынскіх князёў.

У тым жа часе, недзе каля 1247 года, князі Даніла і Васілька Раманавічы, выкарыстаўшы ўнутраныя непаладкі ў Вялікім княстве Літоўскім, заатакавалі землі Берасцейскага і Дарагічынскага княстваў. Але пра гэта ўжо ў наступным адрэзку.

**М. Гайдук**

Зорка
СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

Заблудзіцца ў лесе няхітра, нават у знаёмым. Здаецца, усё табе тут вядома: і роўная, як страла, прасека, і звілістая дарога, і сонечныя палянкі, асобныя дрэвы і кусты. А закруцішся, згубіш з поля зроку важны арыенцір — і ўсё вакол як бы пераменіцца.

Надвечар спахмурнела, і двое хлапчукоў — Анісь і Вадзік — зразумелі, што заблудзіліся. Апоўдні яны пайшлі з кошыкамі ў Прыбельскі бор. Анісь натрапіў на пару баравікоў. Радасці не было меры, і Анісь пацягнуў Вадзіка за сабою ўглыб, пятляючы па гушчарах, палянках і мохавых нізінах. Хлапчукі блукалі доўга і не заўважылі, як сонца схавалася ў аблачынках і ў лесе пашарэла.

Анісь быў свой чалавек у гэтым лесе — хадзіў ён тут неаднойчы і з маці, і са старэйшай сястрой, і з сябрукамі-аднагодкамі. А Вадзік — хлапчук прыезджы, Анісеў стрыечны брат, з горада. Ён усяго другі раз за сваё жыццё ў гасцях у цёткі.

Калі спахмурнела, дык пахалодала пачала адчувацца.

— Што ж, пойдзем дадому, — прамовіў Анісь. Крануўся з месца і тут жа прыпыніўся, пачаў азірацца. — Чакай, Вадзік, а ў якім баку наша дарога?

— Ну, гэта табе лепш ведаць.

— Яно так, але дзе мы апынуліся, не ўцямлю. — Анісь паварочваў галаву то ў адзін бок, то ў другі, прыгаворваючы: — Там павінна была б стаяць бярэзіна з паламанай вершалінай... Няма. А там — пагорак з маладым сасняком... Таксама не відаць...

— От, паспадзявайся на цябе! — насупіўся Вадзік.

— Галоўнае — не ныць! — перапыніў яго Анісь і страсянуў галавой, стараючыся адагнаць разгубленасць. Пастаяў, потым працягнуў наперад руку і рашуча сказаў: — Пойдзем вось гэтак!

— Ты ўпэўнены, што кірунак правільны?

— Правільны ці не, а ідзі за мной і не адставай!

Хмурнела яшчэ больш. Дзе яны дзеліся, сонечныя пераліўы, ад якіх лес быццам увесь свяціўся, зіхацеў зялёна-залатымі фарбамі? Цені хмар цяпер блукалі па ім, нібы перад дажджом, вецер, нават птушкі падавалі галасы рэдка і нясмела.

Тарас Хадкевіч

## КАЛЯ ДОБРАГА ДРЭВА

— Дарога! — на ўвесь голас выкрыкнуў у гэты момант Вадзік. — Глянь, Анісь, дарога...

— Вось і выйшлі... — пачаў было Анісь, але запнуўся, утлядаючыся ў вузкую выгнастую стужку дарогі, што адкрывалася перад імі.

Гэта дарога была незнаёмая: уся ў глыбокіх рытвінах, з ледзь прыкметнымі каляінамі. Аднак дарога ёсць дарога, куды-небудзь ды выведзе.

Вадзік ішоў поруч, устрывожаны Анісевай маўклівасцю, з асцярогай азіраўся па баках і час ад часу паціху пытаўся:

— Далёка яшчэ?.. Хутка выйдзем?

— Выйдзем, — усяго і адказваў Анісь, а ў самога напружана круціліся думкі: „Куды ж мы ідзем? Лес вялікі, цягнецца, кажуць, кіламетраў на дзесяць..."

— Чакай, — азваўся паўшэптам Вадзік. — Вунь там штосьці варушыцца і чмякае.

Абодва адразу ж схаваліся за ствол бліжэйшай сасны і прыслухаліся. Шасцела і чмякала не на дарозе, а ў баку, у лесе. Анісь разабраў на слых удары капытоў аб карэнні дрэў, і гэта трошкі супакоіла: „Мабыць, лось брыдзе непадалёк?" Але то быў не лось — на дарогу неўзабаве выбраўся верхам на гнядым кані чорнабароды мужчына. Сядла пад ім не было, ногі боўталіся. Анісь выбег з-за дрэва, за ім нясмела — Вадзік. Конь захроп і ўзвіўся, высока ўзняўшы пярэднія ногі. Мужчына асадзіў яго і забурчэў незадаволена:

— Ф-фу, ліха! Каня напалохалі, ледзь не скінуў... Ды пастой ты, чортаў дурань! — Ён са злосцю нацягнуў павады вуздэчкі і працягваў гаварыць з канём, быццам быў з ім адзін на адзін: — Паўдня шукаеш цябе, не ўтрапёнага, па лесе, а ты і цяпер выбрыкваешся...

— Скажыце, дзядзька, куды мы выйшлі?

— А куды вам трэба?

— Дадому, у Сасноўцы...

— Ха, трэба ў Сасноўцы, а ідуць у Табалова... Да Добрага дрэва выйшлі, вось куды... Ідзіце за мной, там разбярэмся. — І дзядзька крануў каня, стрымліваючы паводдзямі, каб той не перайшоў на рысь.

Праз колькі хвілін дарога вывела на прадаўгаватую паляну.

— Ідзіце да будана, — сказаў дзядзька, — і я зараз падыду, толькі каня стрыножу.

Каля будана курэла цяпель-

(Працяг на стар. 10)



Першы дзень у школе ў Чыжах. Фота Я. Чэрнякевіч.



Міша Кананюк з Дашоў
Фота Я. Чэрнякевіч.

Мікола Чарняўскі

### АДКУЛЬ БЯДА

Казёл барадаты
Наеўся салаты,
Напіўся вады —
Набраўся бяды!

Брыдзе хмызнякамі
І думае:
„Ж-жах!
Жывот —
Быццам камень,
Зялёна ў вачах!.."

На выган вярнуўся,
Дзе мяккі мурог,
Пабэкаць памкнуўся,
Выходзіць:
— Рох-рох!

— Што стала са мною!
Адкуль жа бяда?
А козы гурмою:
— Цябе нам шкада.

Зайздросным не будзь ты,
Казёл, да капусты.

Не еш, барадаты,
Па столькі салаты,
Пі меней вады —
Не будзе бяды!

### ГАРЭЗНІК ЛЁН

Расплюшчыў лён
Уранку вочы.
Няпраўда,
Ён зусім не спаў:
І ўночы,
Да забаў ахвочы,
У жмуркі
З ветрыкам
Гуляў.

# АМАТАР ПРЫРОДЫ

Мне казаў знаёмы гараджанін
(Сябравалі калісь я і ён):
„Каб паслухаць
птушак шчабятанне,
Дастаткова мець магнітафон.
І не трэба трэсціся ў машынах
І шукаць някранутых гаёў,
Пстрыкну кнопкай —
і ў адну хвіліну
Тэхніка мне выдасць салаўёў".
„Друг былы, цябе не разумею.
Не крыўдуй таму на мой зварот:
Без цябе прырода не збяднее,
А хутчэй за ўсё — наадварот!"

**Зміцрок Марозаў**



Новае ў лесаводстве.



## ШТО ПІШУЦЬ

Летні дзень. Ціхая вясковая вуліца. На лавачцы, каля свайго панадворка, сядзіць дзядуля: чытае ліст, які ён толькі што атрымаў.

Бабуля — суседка кудысьці ішла, ды спынілася, заглядвае праз пляччо і раз-пораз пытае:

— Што там вашы пішуць? Што? Ну, што?

Дзядуля маўчаў-маўчаў, а потым узняў галаву і кажа:

— Нашы пішуць, каб вашы не совалі свайго носа...

## ПА-ДАЎНЕЙШАМУ

У час студэнцкіх канікул сустракаюцца два сябры.

Адзін пытае:

— Ну, як адпачываеш што новенькага? Ажаніўся ты са сваёй Манікай, ці ўсё яшчэ сам варыш сабе абед?

— І тое, і другое, — панура адказвае малады муж.

## ГАСПАДАР

Скардзіцца Іван Міколе:

— Парай, што рабіць. Жонка і цёшча круцяць мною, як цыган сонцам.

Той і раіць:

— Прыйдзі дадому, ды кулаком па стале: „Я тут гаспадар!"

Іван так і зрабіў. А цёшча яго — у вуха...

Бедны Іван схаваўся пад стол.

Аж вось і Мікола на парог.

— О, а чаму гэта Іван пад сталом?

Цёшча адказвае:

— Ён у нас гаспадар: дзе хоча, там і сядзіць...





Забярыце сведкаў! Я буду крытыкаваць начальства.

## НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ

Закаханая пара зайшла ў рэстаран паабедаць. Забыўшы пра заказ, яны не зводзілі адно з другога вачэй. Урэшце ён сказаў:

— Якая ж ты салодкая, так бы і з'еў цябе!

— Я б таксама з'ела цябе!

Афіцыянт, што стаяў ля століка, кашлянуў і спытаў:

— А што будзеце піць?

*

Шатландзец прыходзіць да краўца і пытае:

— Колькі вы бярэце за прасаванне нагавіц?

— Дваццаць пенсаў.

— Добра. Вазьміце дзесяць і адпрасуйце адну клешню. Я іду да фатографа і буду здымацца ў профіль.

*

Навабранец Нільсан выратаваў патанаючага ротнага фельдфебеля.

— Дзякуй, Нільсан! Заўтра я аб'яўлю табе падзяку перад усёй ротай!

— Умаляю, не рабіце гэтага, пане фельдфебель. Яны ж наладзяць мне цёмную!

## ГУМАР З БАРАДОЮ

### АШУКАЎСЯ

Жонка крычала на ўсю хату, сварылася на мужа.

— Але ж я раз у жыцці і ашукаўся.

— І калі гэта было?

— Тады, як на табе, крыклівай, жаніўся.

## З „Весніка Задрыпоніі"

### ЗАСЛУЖАНАЯ ЎЗНАГАРОДА

Самым дысцыплінаваным іграком сезона прызнаны В. Маўчук з ачуцінаўскага „Электраразрадніка". Калі суддзя паказаў яму чырвоную картачку, футбаліст моўчкі павярнуўся і выйшаў з поля.

### ЗДАРЭННЕ Ў МАЙСТЭРНІ

Атрымаўшы з рамонту свае туфлі, грамадзянін Сідарчук раззлаваўся і абазваў шаўца Кустаплюйку кінамеханікам.



— Дарагі, паглядзі, як тут прыго жа...



Без слоў.



Па газонах не хадзіць!

## Курёзы

### СУМЯШЧАЛЬНІЦТВА

У перуанскім горадзе Уачо паліцыя застукала на гарачым трох злачынцаў, якія выбраліся на збройны рабунак.

Пры сённяшнім размаху злачынства ў Перу яшчэ адна спроба збройнага рабунку нікога б не здзівіла. Але гэты факт выйшаў за рамкі штодзённасці. Выявілася, што ўсёй гэтай тройцы ў гэты час належала б знаходзіцца ў суседнім горадзе Уарасі. Бо двое з затрыманых, як паведамляе газета „Комерсіо", былі вязнямі тамашняй турмы, а іх трэці кампаньён — той жа турмы дырэктарам.

### ДЗЕ ЛЕПШ?

Яшчэ ў 1935 годзе амерыканка Іза Мас Ланг за забойства была засуджана на доўгатэрміновае зняволенне. Урэшце ў 1960 годзе яна выйшла з турмы. Але праз некалькі гадоў з уласнай добрай волі паграшыла супраць закону, каб зноў вярнуцца ў турэмную камеру. Учынак гэты 93-гадовая жанчына тлумачыла тым, што яна хацела вырвацца з пекла паўсядзённага жыцця.



Службовая лесвіца адрозніваецца ад звычайнай тым, што па ёй з вялікай цяжкасцю падымаюцца малады.